Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сакратар'яце ТВА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі .. ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 8 (96) | Вільня, 11-га ліпня 1936 г. | Год 4-ты.

## Дзе выхад?

Хоць ужо неаднойчы розныя палітычныя дзеячы ў розных дзяржавах сьвету прадсказывалі канец гаспадарчага крызысу, аднак крызыс шалее на сьвеце і надалей, ды і нявядома яшчэ, калі кончыцца.

Разам з гаспадарчым крызысам зьявіўся і крызыс маральны, які выражаецца перадусім у недаверу адных да другіх, ці то асобных людзкіх адзінак, ці то нават цэлых гаспадарстваў. У сучасны мамэнт ніхто нікому ня верыць, ня верыць ня толькі на слова, але нават і на прысягу. Апошнія здарэньні ў міжнародным жыцьці як найлепш пацьвярджаюць слушнасьць гэнага недаверу. На апошніх паседжаньнях у Жэневе як Рада Лігі Народаў, так і агульны сход сяброў тэй-жа Лігі пастанавілі скасаваць санкцыі супроць Італіі, якія былі ўведзены па пастанове тэй-жа Рады Лігі ў лістападзе леташняга году, калі было яшчэ нявядама, чым можа кончыцца італьянска-абісінская вайна. Цяпер ужо ведама, што ў вайне канчальна перамагла Італія, і Ліга Народаў касуе свае ранейшыя пастановы, пры́ймаючы новыя, і моўчкі дае згоду на прызнаньне за Італіяй захопленых ёю сілком абісінскіх земляў.

Зразумела, што такі паступак такой важнай інстытуцыі, якой была дасюль Ліга Народаў, лішні раз пераконвае кожнага, што верыць каму-бы то ні было, ці спадзявацца на некага, хто-б памог другому ў бядзе, у нашыя часы нельга.

Паверыў-жа абісінскі цар, нэгус, у тое, што пастанаўляла Ліга Народаў і за гэта, за сваю лёгкавернасьць, апынуўся ў вельмі дрэнным палажэньні — царом бяз царства.

Нічога тады няма дзіўнага ў тым, што з Лігай Народаў перастаюць лічыцца, як з паважнай установай, найлепшым прыкладам чаго зьяўляецца адмова аўстрыяцкага канцлера Шушнінга зьявіцца ў Жэневу на запросіны Лігі і вострае выступленьне на паседжаньні Лігі прэзыдэнта гданскага сэнату Грэйзэра, заявіўшага, што гданчане ня хочуць быць зьвязанымі з Лігай Народаў, ад якой ня маюць аніякай карысьці, а толькі маюць адны клопаты.

Аднак у гэным зьявішчы ёсьць і добры бок, а іменна тое, што людзі ўрэшце павінны будуць пакласьці надзеі толькі на самых сябе і перастануць верыць розным абяцанкам некага трэцяга.

Для нас, беларусаў, гэткі пагляд асабліва важны і асабліва неабходны. Даволі рабілася розных абяцанак і нам, як таму нэгусу, і таксама мы, як і нэгус, толькі праігрывалі, веручы гэным абяцанкам. Цяпер-жа мы павінны перадусім лічыць на самых сябе, мусім пачаць працаваць самі над паляпшэньнем свайго жыцьця і то пачынаючы ад найдрабнейшых яго зьяваў. Толькі тады мы знойдзем выхад з таго цяжкога палажэньня, у якім мы апынуліся з прычыны крызысу гаспадарчага і маральнага.

Перамагчы-ж гэны крызыс нам, пэўне, удасца лягчэй, чым каму іншаму, бо-ж хіба мала каго так загартавала жыцьцё, як нас, і на пераломе мы здолеем быць мацнейшымі ад іншых.

## Незразумелыя адносіны.

У нядзелю 5-га ліпеня г. г. польскае радыё перадавала „людовэ песьні з Віленшчызны". Мусіць усе беларусы радыёслухачы аднолькава аднесьліся да гэнае аўдыцыі.

Аказалася, што „людовэ песьні" гэта ня што іншае, як выключна песьні беларускія, аднак у радыё чамусьці іх баяліся ці не хацелі назваць беларускімі. Яшчэ горшым было тое, што частку беларускіх песьняў пяялі ў польскім перакладзе, выдаючы іх сапраўды за польскія песьні. Зразумела, што ніхто нікому ня можа забараніць рабіць пераклады на іншую мову, але заўсёды трэба памятаваць, што зрабіўшы пераклад, ня можна выдаваць перакладзеную рэчы за сваю ўласную.

Ня менш дзіўным, каб не сказаць больш, выглядала і самае выконваньне беларускіх песьняў. Кампазытары як Вэнслаўскі, так і Шэлігоўскі чамусьці знайшлі патрэбным перадаваць беларускія песьні ў аднагалосным пяяньні, і гэта тыя песьні, якія ўжо раней апрацаваны і ўжо раней не адзін раз выконваліся ў чатырох - галосным пяяньні. Вось-жа мусім прыпомніць, што беларусы між іншым маюць у сваім пяяньні тую асаблівасьць, што заўсёды пяюць на два, на тры, або і на чатыры галасы, высьцярагаючыся пяяньня унісонага, як зусім няпрыгожага на густ беларусаў, і то ня толькі беларусаў праваслаўных, але і каталікоў. Можа п. п. Вэнслаўскі і Шэлігоўскі хацелі аднагалосным і ўнісонным пяяньнем паказаць што гэта песьні народныя, „людовэ". Дык ізноў-жа мусім прыпомніць, што нашыя сяляне таксама рэдка калі пяюць у адзін голас і толькі каталікі пяюць рэлігійныя песьні ў унісон і таму радыёвая перадача нашых песьняў, як нейкага прымітыву, была зусім неадпаведная.

Такім чынам мы, радыёслухачы беларусы, протэстуем супроць таго, каб нашыя беларускія песьні выдаваліся зусім бясправна за песьні польскія і дамагаемся, каб радыё, калі перадае нашыя песьні, вымагала мастацкага іх выкананьня, на што яны зусім заслугоўваюць. Багацьце і хараство нашае песьні прызнаюць і вучоныя іншых нацыяў, дык ня можна з яе рабіць нейкага прымітыву.

*Радыёслухач.*

## Навучаньне пунктуальнасьці ўрадоўцаў прем'ер-міністрам.

У газэце „Kurjer Poranny", у сувязі з частымі візытацыямі прэм'ер-міністра ген. Славой-Складкоўскага розных дзяржаўных інстытуцыяў дзеля праверкі пунктуальнасьці чыноўнікаў, зьмешчаны артыкул, аўтар якога малюе абраз пануючых у інстытуцыях звычаяў і падчырківае прызвычаеньне вышэйшых чыноўнікаў зьяўляцца на службу са спазьненьнем.

„У нас ня толькі ў інстытуцыях, але і наагул у грамадзкім жыцьці, — піша аўтар, — устанавіўся дрэнны звычай — чым вышэйшае становішча займае „фігура", тым больша права мае яна позьніцца. Возьмем для прыкладу першы лепшы ўрачысты акт у якім небудзь закіненым гарадку. Спярша ломіцца школьная моладзь, якая дурэе ў залі ў працягу цэлай гадзіны, чакаючы на пачатак урачыстасьці; пасьля прыходзіць „плебс" і толькі тады, калі заля перапоўнена, зьяўляюцца мясцовыя „тузы", уважна аглядаючыся кругом, ці ня прышлі яны, барані Бог, раней, чымся асобы, якія стаяць ніжэй ад іх на іерархічнай драбіне. Яны гардзяцца і задаволены тым, што нехта іх чакае,што бяз іх праграма не пачнецца.

Ніхто ня хоча быць простым сьмяротным, кожны хоча быць прынамся Гамлетам.

Дзякуючы гэтай дрэннай рысцы чалавечага характару ў нас укараніліся звычаі хранічнага спозьніваньня і права быць няпунктуальным.

Простыя людзі гэтаму ўжо болей ня дзівяцца і проста кажуць: —Пан можа пазьніцца, хам павінен чакаць, пакуль ня прыйдзе пан.—

Права спозьнівацца зрабілася нават у нас меркаю вялічча чалавека. Чым вышэйшы чыноўнік,тым пазьней можа ён прыходзіць у канцэлярыю, і чым „меншы" чалавек, тым даўжэй павінен ён чакаць. Пан чакаць ня можа, калі ён прыходзіць у справах у інстытуцыю, ён павінен быць прыняты зараз-жа, перад іншымі, якія раней прыйшлі за яго.

Гэтае „панскае" права спозьнівацца, — кажа далей аўтар, — вельмі чараўліве ў сваіх рэзультатах. Кіраўнік ці нейкі чыноўнік, які позьніцца дзеля падняцьця свайго прэстыжу, вучыцца пагардліва адносіцца да тых, ад каго ён трэбуе пунктуальнасьці. На сваю службу ён заглядаецца не як на грамадзкі абавязак, а як на свой асабісты прывілей. Ён пачынае прыходзіць да пераконаньня, што выконвае не абавязак, а аказывае ласку пакорна чакаючым каля яго дзьвярэй інтэрэсантам. Прыймо інтэрэсантаў у вызначаныя гадзіны робіцца з ласкі, з ласкі падпісываюцца паперы, а асобым знакам прыхільнасьці зьяўляецца паклон ці паданьне рукі.

Такім чынам ствараецца „бюрократыя", якая пазбаўляе чалавека кантролю над самім сабой,прывучае яго да ідэнтыфікаваньня асабістых жаданьняў са службовымі абавязкамі.

Лекцыі пунктуальнасьці, якія дае ў сучасны мамэнт прэм'ер-міністар, могуць быць няпрыемнымі і нарушаюць асьвяшчоныя гадамі традыцыі, але трэба прызнаць,што яны неабходныя, калі мы хочам стацца сучаснай дзяржавай.

Калі шкаляр, які зварочваецца да ангельскага караля з просьбай абменівацца паштовымі маркамі, атрымоўвае адказ у працягу двух тыдняў, дык у Польшчы грамадзянін, які злажыў заяву ў дзяржаўную інстытуцыю, не павінен чакаць адказу ў працягу двух гадоў".

Думаем, што прыклад прэм'ер-міністра і голас польскага публіцысты з газэты „Kurjer Poranny". Ня пройдзе бяз сьледу міма ўвагі і вуха чыноўніка.

Мы, беларусы, пэўне-ж толькі выйграем, калі намеры і жаданьні ген. Славой-Складкоўскага зрэалізуюцца ў жыцьці, бо-ж кожны з нас дагэтуль вельмі шмат без патрэбы трацію часу, чакаючы на вырашэньне сваіх справаў. Можа ўрэшце і нашая пагаворка:„каб ты па ўжэндах цягаўся" адыйдзе ў безпаваротную мінуўшчыну.

## Дэмонстрацыйнае выступленьне Грэйзэра ў Жэнэве.

Пасьля таго, як на паседжаньні Рады Лігі Народаў мін. Ідэн прачытаў рэзалюцыю, у якой Рада Лігі просіць Польшчу, як дзяржаву, якая вядзе замежныя справы Гданска, заняцца ліквідацыяй інцыдэнтаў, выкліканых візытам крэйсера „Лейпціг", і пасьля заяўленьня мін. Бэка аб згодзе прыняць гэтую місію, два разы выступаў прэзыдэнт гданскага сэнату Грэйзэр.

Абедзьве яго прамовы былі вострымі нападкамі на Лігу Народаў і, перадусім, на яе вярхоўнага камісара Лестэра.

— *Насельніцтва Гданску,*—заявіў Грэйзэр, — *ніякім чынам ня лічыць сябе прывязаным назаўсёды да Лігі Народаў.* Трэба лічыцца з настроямі жыхароў Гданску, катория зьяўляюцца немцамі. Гданск быў падпарадкаваны міжнароднай інстытуцыі дзеля таго, каб даць магчымасьць Польшчы доступу да мора. Але гэта можна было асягнуць, не адрываючы Гданска ад Нямеччыны. Відаць, існаваў намер стварыць на ўсходзе Эўропы сталую крыніцу непаразуменьняў між Польшчай і Нямеччынай. Аднак, дзякуючы нацыянал-сацыялістычнаму ўраду, дзякуючы двум вялікім павадырам—Гітлеру і Пілсудскаму, намер гэты ня зьдзейсьніўся, і польска-гданскія адносіны складваюцца памысна бяз помачы Лігі і яе вярхоўнага камісара.

Гданск наагул ніякай карысьці ад Лігі ня мае, а наадварот — толькі клопат і непатрэбныя вялікія выдаткі, зьвязаныя з утрыманьнем вярхоўнага камісара.

У канцы Грэйзэр высунуў дзьве канкрэтныя прапазыкі: 1) *назначыць новага вярхоўнага камісара, каторы ня ўмешваўся-б у ўнутраныя справы Гданску* або 2) *не назначаць наагул вярхоўнага камісара, а ўзлажыць адказнасьць перад Лігай на прэзыдэнта гданскага сэнату.* Толькі такім шляхам, па думцы Грэйзэра, можна будзе вярнуць у Гданску аўторытэт Лігі Народаў.

Пасьля Грэйзэра прамаўляў мін. Бэк, заяўляючы, што нападкі прэзыдэнта Грэйзэра на Лігу Нацый і яе вярхоўнага камісара цалком неабаснаваны.

Францускі мін. Дэльбос стаў у абарону Лестэра і падчыркнуў, што выступленьне Грэйзэра толькі асьвяціла тыя труднасьці, з якімі прыходзіцца змагацца ў Гданску вярхоўнаму камісару.

Дэлегаты Гішпаніі, Турцыі і Аўстраліі асудзілі форму і тон выступленьня Грэйзэра. Мін. Ідэн выказаў жаль, што прэзыдэнт Грэйзэр дапусьціў у сваёй прамове напацкі на Лігу і яе прадстаўніка.

Выступіўшы паўторна, прэзыдэнт Грэйзэр заявіў, што не чакаў ад Рады Лігі іншых адносінаў і што *Нямеччына чакае таго мамэнту, калі прэзыдэнт гданскага сэнату ня будзе забавязаны зьяўляцца ў такую Лігу Народаў.*

Пасьля гэтага выступленьня гданская справа ў Лізе была вычэрпана. Скончылася яна на тым, што Ліга вызначыла, як заўсёды, камітэт трох, у які ўвайшлі прадстаўнікі Англіі, Францыі і Португаліі. Гэты камітэт трох мае абавязак сачыць за сытуацыяй у Гданску. Практычна ўсё зводзіцца да таго, што Польшча мае сама вырашыць з Гданскам гэты конфлікт.

## Зьезд польскіх хароў у Варшаве.

28 і 29 чэрвеня гэтага году ў Варшаве адбыўся зьезд польскіх хароў. У зьезьдзе прыймалі ўчасьце хары з розных гарадоў Польшчы, а таксама польскія хары з іншых дзяржаў: з Нямеччыны, з Чэхаславаччыны, з Латвіі, Эстоніі і нават з Амэрыкі.

Усяго зьехалася ў Варшаву да сотні розных хароў з лікам каля сямёх тысяч пяюноў.

28 чэрвеня адбылося адчыненьне зьезду, на якім былі прадстаўнікі Ураду з п. прэм'ерам ген. Славой-Складкоўскім на чале, прадстаўнікі варшаўскага самаўраду і грамадзкіх арганізацыяў, прычым з пяяньнем выступала некалькі злучаных хароў.

На другі дзень зьезду, 29 чэрвеня, адбыліся конкурсныя выступленьні большых хароў—шмат якія хары мелі звыш сотні асоб. У конкурсе прыймалі ўчасьце 32 хары, пяючы па аднэй, выбранай імі яшчэ загадзя песьні.

Трэба адцеміць, што агульная тэхніка пяяньня польскіх хароў стаіць досыць высока, значна вышэй, чымся нейкіх 10 гадоў таму назад. Аднак гэная тэхніка яшчэ не дасягла тэй вышыні, на якой была тэхніка некаторых даўнейшых расейскіх хароў. Між іншым кідаецца ў вочы, можа правільней у вушы, няроўнасьць у польскіх харох таласоў мужчынскіх і жаночых, а іменна перавага апошніх, ад чаго пры пяяньні няма поўнай гармоніі.

Агулам кажучы, зьезд польскіх пяюноў у Варшаве паказаў, што польскае сьвядомае грамадзянства належна ацэнівае значэньня пяяньня ў агульным культурным разьвіцьці народу, дзякуючы чаму ў гэтым напрамку польскія пеўчаскія арганізацыі зрабілі вялікі шаг наперад.

Нажаль абставіны нашага беларскага жыцьця ня спрыялі далейшаму разьвіцьцю нашага харавога пяяньня.

Праўда, музыкальная беларуская літэратура з кожным годам павялічваецца і багацее, дзякуючы таму, што беларускай народнай песьняй зацікавіліся шмат якія кампазытары, часам кампазытары сусьветнай славы, але лік беларускіх хароў не павялічыўся настолькі, як лік польскіх хароў за апошняе дзесяцёхгодзьдзе. І таму абавязкам кожнага сьвядомага беларуса зьяўляецца, між іншым, і належная забота аб тым, каб у меру магчымасьці прычыніцца да зрушэньня з меєца і гэтае важнае справы, справы арганізацыі і далейшага разьвіцьця беларускага харавога пяяньня,

Ніхто з беларусаў не павінен забываць, што нашая песьня разам з нашай мовай найлепш сьведчаць аб нашай самабытнасьці і найбольш гэную самабытнасьць захоўваюць.

Дык бярэм прыклад з іншых народаў, беражэма нашае багацьце, нашую родную песьню.

## Англія хоча цеснага супрацоўніцтва з Нямеччынай.

У парыжскіх палітычных кругох вялікае ўражаньне выклікаў артыкул у „Таймсе“, у якім выяўлены погляды Бальдвіна на міжнародную палітыку Англіі. У гэтым артыкуле падчырківаецца, што Англія і надалей гарантуе нятыкальнасьць францускай граніцы, але толькі паўночна-ўсходняй яе часьці, прылягаючай да Нямеччыны, але зусім не гарантуе той часьці, якая прылягае да Італіі. Гэта выдаецца парадоксальным, калі прыняць пад увагу асаблівыя інтарэсы Англіі на Сяродземным моры.

Далей у артыкуле падчырківаецца, што Брытанія менш за ўсё намерана браць на сябе адказнасьць за забавязаньні Францыі, якія вынікаюць з падпісаных ёю дагавораў. Па думцы „Таймса“, мірныя прапазыкі Гітлера зьяўляюцца адзінай надзеяй на стабілізацыю палажэньня ў Заходняй Эўропе. Не магчымы эўрапэйскі мір, ня можа быць і Лігі Народаў бяз супрацоўніцтва з Нямеччынай.

## Тэрор і забастоўкі ў Гішпаніі.

Як пішуць газэты, у Мігельцюрры, у часе сутычкі між фашыстамі і камуністамі, 2 чалавека было забітых і 10 цяжка раненых.

У Лерыдзе абвешчана агульная забастоўка. Зачынены ўсе магазыны і рэстараны. Бастуючыя затрымоўваюць на дарогах усе транстпарты з спажывецкімі прыпасамі.

У Грэнадзе забастоўка транспартных рабочых трывае надалей. У горадзе адчуваецца недахоп спажывецкіх прадуктаў.

У Малазе забаставалі 9 тысячаў работнікаў.

У Мадрыце ўзрывамі 8 бомбаў зьніштожаны незакончаны яшчэ цалком дом. На станцыі арыштавана 80 камуністаў прыбыўшых з Астурыі. Сацыялістычны саюз будаўляных работнікаў пастанавіў спыніць забастоўку.

## Ліга Народаў скасавала санкцыі процiў Італіі.

На апошнім паседжаньні Сабраньня Лігі Народаў была пастаўлена на галасаваньне рэзалюцыя аб адмене санкцыяў. Галасавала 49 дзяржаваў. Абісінія, разумеецца, галасавала процiў скасаваньня, чатыры дзяржавы паўстрымаліся ад падачы голасу, 44 дзяржавы галасапалі за рэзалюцыю. Такім чынам большасьцяй 44 галасоў была прынята рэзалюцыя Лігі Народаў аб адмены санкцыяў. Пастанова, касуючая санкцыі, будзе дзеіць ад 15 ліпня г.г.

Цікава зацеміць, што аўстрыяцкі канцлер Шушнінг адмовіўся ад прыйма ўдзелу ў апошняй сэсыі Лігі Народаў.

## Крывавыя сутычкі на вуліцах Парыжу.

Ужо пісалася, што францускі ўрад пад старшынствам мін. Блюма распусьціў усе існуючыя ў Францыі патрыётычныя Лігі. У сувязі з гэтым 6 г.м. увечары на пляцу Этуаль у Парыжы сябры распушчаных арганізацыяў зрабілі маніфэстацыю, у якой прыняла ўчасьце каля 1500 чалавек. На Элісэйскіх палёх маніфэстанты былі затрыманы сільным атрадам паліцыі, у выніку чаго дайшло да сутычкі.

Маніфэстанты бараніліся ад паліцыі крэсламі з рэстаранаў. Паліцыя з вялікім трудом зрабіла парадак. У часе сутычкі ранена 33 паліцыянтаў.

Маніфэстацыя трывала каля гадзіны. З пасярод маніфэстантаў арыштавана 16 асобаў.

## Францыя незадаволена палітыкай Вены.

З Жэнэвы пішуць, што аўстрыйская праблема зьяўляецца прадметам трывогі міжнародных дыплёматычных кругоў. Калі аўстрыяцкі канцлер Шушнінг адмовіўся прыехаць у Жэнэву, то паўстаў непакой, што ў Аўстрыю ў блізкім будучым вернецца дынастыя Габсбургаў. Аднак, паводле атрыманых дадатковых вестак, пытаньне аб рэстаўрацыі Габсбургаў ня мае асобай актуальнасьці.

# СССР гаспадарства фэдэратыўнае ці суцэльнае?

АД РЭДАКЦЫІ. Артыкуль гэты чэскага вучонага і публіцыстага др. Я. Славіка (Slavik) быў надрукаваны ў „Slovansk-im przehlede“ (№ 1 сёл.). У арт. ясна і навукова точна паказаны гаспадарсьцьвены лад СССР. Дзеля таго мы яго тут блізу цэлы перадрукоўваем у перакладзе з чэскае мовы.

Здаецца, што пытаньне, пастаўленае ў назове гэтага артыкулу, мае ў сабе відавочную супярэчнасьць. Як можна сумлявацца ў фэдэратыўнасьці гаспадарства, што ўрадова завецца *саюзам* радавых („савецкіх“) сацыялістычных рэспублікаў? Гэта-ж радавае гаспадарства складаецца з сямёх „сувэрэнных“ рэспублікаў, з якіх некаторыя ізноў маюць вялікі сьцяг рэспублікаў „аўтаномных“! Аднак на нашае пытаньне нельга адказаць так, як на першы пагляд здаецца. Паводле назову і вонкавае формы СССР гаспадарства фэдэратыўнае, а запраўды гэта гаспадарства такое суцэльнае, якім царская Расея ніколі ня была. Вось колькі довадаў.

Ад пачатку бальшавіцкае рэвалюцыі некаторых славянафілаў трывожыла нацыянальная палітыка бальшавіцкага ўраду, пачатая па кастрычнікавым (паводле новага стылю лістападавым) пераварощe „Дэклярацыяй правоў народаў Расеі“ (з 15-га лістападу 1917 г.). Гэта абвяшчэньне рады народных камісараў, падпісанае Ленінам, як старшынёй і Сталінам, як народным камісарам нацыянальных справаў. „Совнарком“ тут высьняе, што за царызму народы Расеі былі сыстэматычна цкаваны адны на адных. Рэзультатам гэткае палітыкі былі з аднаго боку рэзьні і пагромы, а з другога—паняволеньне народаў. Да гэтае нягоднае палітыкі нямашака і ня мае быць павароту. Ранейшая палітыка мусіць быць заменена палітыкаю самахвотнага і дастойнага саюзу народаў радавае Расеі. Нягодная палітыка маны і недаверу, цкаваньня і правакацыі мусіць быць заменена адкрытай і чэснай палітыкаю, вядучай да поўнага ўзаемнага даверу насяленьня. Адно гэтак можа паўстаць чэсны і трывалкі саюз народаў Расеі. Толькі пры помачы гэткага саюзу могуць злучыцца работнікі і сяляне новае Расеі ў вадну рэвалюцыйную сілу, здольную процістаўіцца ўсім нападам імпэрыялістычна-анэксыяністычнае буржуазіі. — Ужо першы зьезд радаў (у чэрвені 1917 г.) абвясьціў права народаў Расеі на свабоднае самаазначэньне. Другі зьезд радаў (у лістападзе 1917 г.) яшчэ станаўчэй і ясьней пацьвярдзіў гэтае неад'емнае права народаў Расеі. Рада народных камісараў, спаўняючы волю абодвых зьездаў, пастанавіла кіравацца ў нацыянальным пытаньні гэткімі прынцыпамі:

1) роўнасьць і сувэрэннасьць народаў Расеі,

2) права народаў Расеі на свабоднае самаазначэньне ажно да адлучэньня і закладзінаў незалежнага гаспадарства.

3) скасаваньне ўсіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і агранічэньняў,

4) свабодны развой нацыянальных мяншынаў і этнаграфічных (!) групаў, насяляючых тэрыторыю Расеі [1].

Выразна аб утварэньні фэдэратыўнага гаспадарства кажацца адно ў „Дэклярацыі правоў працоўнага і эксплёатаванага люду“, прынятай на III усерасейскім зьезьдзе радаў (26 студня 1918 г.).

У 1 парагра фе кажацца „Радавая Расейская Рэспубліка арганізуецца на аснове свабоднага саюзу свабодных народаў як фэдэрацыя радавых нацыянальных рэспублікаў“.

У парагра фе 4 чытаем: „Імкнучыся да ўтварэньня запраўды вольнага і, як рэзультат гэтага, тым паўнейшага і трывалчэйшага саюзу працоўных клясаў усіх народаў Расеі, III зьезд радаў абмяжуецца ўстанаўленьнем аснаўных элемэнтаў фэдэрацыі радавых рэспублікаў Расеі, пакідаючы работнікам і сялянам кожнага народу, каб самастойна пастанавілі на сваім собскім паўнамочным зьезьдзе радавым, ці хочуць і на якіх асновах мець учасьце ў фэдэральным урадзе і ў васталых фэдэральных установах радавых“ [1].

Уважна чытаючы абедзьве гэтыя першыя дэклярацыі, бачым, што маюць яны наўперад характар рэвалюцыйна-агітацыйны процi старога палітычнага ладу, а хочуць дапяць суцэльнейшага гаспадарства як было царскае, гаспадарства сацыялістычнага, дзе работнікі і сяляне ўсіх народаў будуць цясьней злучаны, як упярад. Відавочна, што тут ня ходзіць аб фэдэрацыю асобных народаў Расеі, але аб цясьнейшае злучэньне працуючых клясаў усіх народаў такім способам, што ўсім даюцца роўныя правы. У першы мамэнт мала хто разумеў гэтую „дыялектычную“ тактыку—дазволіць адлучэньне, каб дапяць цясьнейшага злучэньня! У дэклярацыі бачылі сыгнал да распаду Расеі.

У Расеі ёсьць 50 большых народаў і 136 маленечкіх і да ўсіх іх тэорэтычна мела адносіцца дэклярацыя, прызнаючая ўсім права самаазначэньня ажно да поўнага адлучэньня! Але ўжо надзвычайна вялікая колькасьць маленькіх народаў паказвае, што ім гэтае права на практыцы не магло быць прызнана і што дэклярацыя мела наўвеце заданьні зусім іншыя

[1] Прыр. зборнік „Советская политика за 10 лет по национальному вопросу в РСФСР“ (Улажылі І. Лазоўскі і І. Бібін 1928 г.). Тут сабраны ўсе законы і загады, што адносяцца да нацыянальных справаў з 1917—27 г. г.

[1] Там-жа бач. 4—5.

